

Маладзёжным важаком у Брэсцкім дзяржаўным тэхнічным універсітэце стала студэнтка 3 курса эканамічнага факультэта Алеся Фядчук (на здымку). Яна займаецца арганізацыяй розных злётаў і конкурсаў, грамадскіх пасяджэнняў. Маладыя людзі давяраюць Алесі, таму і абралі яе сакратаром пярвічнай арганізацыі БПСМ ВНУ, у якой ужо больш як дзвесце чалавек.

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА.**

Новыя кнігі

## Падарожжа па Гомельшчыне

Гомель, Брагін, Калінкавічы, Петрыкаў, Лоеў — усяго звыш 130 вялікіх і дробных населеных пунктаў Гомельшчыны, кожны са сваёй, не падобнай да іншых, гісторыяй, якая каранямі сыходзіць у сівую даўніну, паўстаюць у новай кнізе выдавецтва "Беларусь" **"Гомельшчына: назвы населеных пунктаў паводле легендаў і паданняў"**. Яна выйшла ў знаёмай ужо чытачам серыі "Мой родны кут". Сабраныя ў ёй матэрыялы, запісаныя і апрацаваныя доктарам філалагічных навук А.М.Ненадаўцом, дазваляюць прыхільнікам беларускасці пазнаць гісторыю роднага краю, звычкі і характары людзей, іх жыццё і побыт, а таксама даведацца, адкуль пайшлі сучасныя назвы населеных пунктаў Гомельскай вобласці. Так, напрыклад, назва Лельчыцы ўтварылася ад украінскага слова "лелькі", ці, па-нашаму, буслы. Менавіта ў гэтых птушак ператварыў мясцовы знахар закаханых адзін у аднаго Паўлінку і Сымона, каб тыя заўсёды былі разам і ніхто не перашкаджаў іх шчасцю. Сваю назву Рагачоў атрымаў ад імя слаўнага сына Беларусі ваяводы Рогача, які загінуў, абараняючы свой край ад чужынцаў, і быў пахаваны дружыннікамі разам са сваімі забітымі ў бітве таварышамі. Над слаўнымі воямі быў насыпаны курган, які назвалі Рогачаў. Прайшоў час, назва перайначылася, і з'явіўся горад Рагачоў. І далей. Назва Нароўля — ад рачулкі Нараўлянка, у якую ператварылася наравістая дзяўчына, што не слухалася сваіх бацькоў. Так, мясціна за мясцінай, аповед за аповедам адгортваюць перад чытачамі старонкі старажытнай мінуўшчыны, памяць аб якой яшчэ захавалася ў народзе.

## І зноў анталогія

У выдавецтве "Ураджай" выйшаў чарговы зборнік **"Анталогія беларускай байкі"**, у якім змешчаны лепшыя творы знакамітых беларускіх байкапісцаў розных часоў. Многія з іх сталі народнымі. Яны актуальныя, надзённыя, афарыстычныя. У байках востра высмейваюцца розныя сацыяльныя з'явы, прасвечвае добразычлівы гумар адносна людскіх недахопаў.

## З верай у чалавека

Новая кніга Уладзіміра Вялічкі, Васіля Шырко і Уладзіміра Глушакова "Новая Беларусь" (выдавецтва "Беларусь") — працяг зборніка публіцыстаў "Беларусь маладая", які пабачыў свет два гады таму. Яе аснову складаюць лепшыя публікацыі аўтараў у часопісе "Беларуская думка". Яны, як піша аўтар прадмовы да кнігі Іван Шамякін, "падымаюць вечныя тэмы: як жыць, здабываць хлеб надзённы, выхоўваць маладое пакаленне, звяраць учынкі з наказам дзядоў і бацькоў — любіць, берагчы ад ворага сваю Беларусь, працаваць так, каб жыццё ўсіх і кожнага з нас стала больш заможным".

Методыка

# Дзе менш паператворчасці, там больш дзелавітасці

УСВЕДАМЛЕННЕ вялікай ролі метадычнай работы з'яўляецца, бадай, адной з ключавых тэндэнцый развіцця сучаснай прафесійна-тэхнічнай установы. У многіх установах прафесійнай адукацыі разумеюць, што будучыня за тымі навучальнымі ўстановамі, у якіх у максімальнай ступені будзе забяспечвацца магчымасць развіцця інтэлектуальнага і творчага патэнцыялу інжынерна-педагагічных работнікаў. А гэта магчыма толькі пры добрай арганізацыі метадычнай службы ў ПТНУ.

Інавацыі — гэта неад'емны атрыбут жыццядзейнасці сучаснай навучальнай установы. Новыя адукацыйныя тэхналогіі — не толькі ўмова павышэння якасці адукацыі, але і магчымасць павысіць канкурэнтаздольнасць ПТНУ на рынку адукацыйных паслуг. Аднак інавацыйныя працэсы ў навучальных установах патрабуюць адпаведнай падрыхтоўкі. Гэта абумоўлена, перш за ўсё, тым, што яны ствараюць дадатковае псіхалагічнае напружанне ў педагагічным калектыве. Складанасць інавацыі, яе дынаміка і тэрміны вызначаюць ступень дадатковай нагрузкі на псіхіку інжынерна-педагагічных работнікаў. Правільна арганізаваная метадычная служба можа аслабіць стрэсагеннае ўздзеянне інавацыйных працэсаў. Для таго каб далучыць усіх інжынерна-педагагічных работнікаў да ўдзелу ў метадычнай рабоце, прычым да ўдзелу не фармальнага, а актыўнага, творчага, неабходна ўлічваць індывідуальныя магчымасці, а таксама моцныя і слабыя бакі кожнага педагога, удакладніць, што павінен даць яму ўдзел у метадычнай рабоце.

Кандыдат педагагічных навук Г.С.Бялоў сцвярджае, што ступень актыўнасці і інтарэсу педагогаў да метадычнай работы класіфікуецца па прыкметах, якія не маюць прамой сувязі з адукацыяй і вопытам работы. Ён выдзяляе чатыры катэгорыі работнікаў.

Першая катэгорыя — творчыя, ініцыятыўныя педагогі, якія цікавяцца ўсімі пытаннямі навучання сваёй спецыяльнасці, выкладання свайго прадмета.

Другая — педагогі, якія не праяўляюць ініцыятыву.

Трэцяя — педагогі, якія чакаюць ад метадычнай работы толькі дапамогі ў выкананні сваіх штодзённых абавязкаў.

Чацвёртая — выкладчыкі, якія разглядаюць метадычную службу як марнаванне асабістага часу і сіл, ад чаго трэба па магчымасці вызваліцца.

Педагогі, аднесеныя да першай катэгорыі, уяўляюць асаблівую каштоўнасць ужо таму, што яны разумеюць важнасць удасканалення метадычнага майстэрства. І не патрабуецца вялікіх намаганняў, каб пераканаць іх у неабходнасці гэтай работы. Сярод кіраўнікоў ПТНУ вобласці, бадай, немагчыма знайсці такога, які б не цікавіўся метадычнай службай сваёй навучальнай установы. Ва ўсіх ПТНУ вобласці ўведзена пасада метадыста, ёсць метадычныя кабінеты.

Інфармацыйна-метадычны кабінет прафесійнага ліцэя № 1 Магілёва (дырэктар Валерый Сяргеевіч Пякарскі) арганізуе сваю работу так, каб садзейнічаць пастаяннаму павышэнню прафесіяналізму выкладчыкаў і майстроў вытворчага навучання. У сувязі з агульналіцэйскім эксперыментам прыярытэтным накірункам работы кабінета была дыягностыка інфармацыйных патрэбнасцей педагогаў і іх рэалізацыя ў педагагічным працэсе. Вынікі дыягностыкі дазволілі вызначыць найбольш актуальныя праблемы: патрэбнасць у павышэнні ведаў па абнаўленні зместу адукацыі ў сувязі з інавацыйнымі адукацыйнымі працэсамі. Метадыстам навучальнай установы Чыжэўскай складзена педагагічная карта, дзе скарэкціраваны комплексны план дзейнасці ліцэя, вучэбна-метадычнага цэнтра. Кабінет стаў цэнтрам дыягнастычнага, інфармацыйнага і метадычнага забеспячэння вучэбна-выхаваўчага працэсу, створаны ўмовы для самаадукацыі педагогаў. Трывала ўвайшлі ў практыку работы метадычнага кабінета Магілёўскага эканамічнага прафесійнага каледжа (дырэктар Алег Адамавіч Бахановіч) анацыраваныя агляды педагагічных выданняў у форме "Прэс-экспрэс", тэматычныя выставы з абавязковым прадстаўленнем вопыту педагогаў.

Выстава метадычных напрацовак, якую арганізавала метадыст ПТВ № 4 Наталля Паўлаўна Казлова, паказала, што педагогі навучальнай установы працуюць па розных напрамках. Ствараюцца метадычныя дапаможнікі для педагогаў і навучэнцаў, распрацоўваюцца праграмы факультатыўных заняткаў. Дырэктар ПТВ № 4 Сяргей Аляксандравіч Пагужэльскі з гонарам прадэманстраваў матэрыялы выставы. На абласным семінары-практыкуме метадыстаў ПТНУ вобласці "Удасканаленне метадычнай службы", які адбыўся на базе вышэйшага прафесійнага вучылішча бытавога абслугоўвання насельніцтва Магілёва, у абласным ліцэі пры універсітэце імя А.Куляшова, на базе Магілёўскага палітэхнікума, была прадастаўлена магчымасць падзяліцца вопытам работы па арганізацыі дзейнасці метадычнага кабінета навучальнай установы. Так, намеснік дырэктара па метадычнай рабоце ВПВ бытавога абслугоўвання насельніцтва Магілёва расказала пра методыку стварэння і работу творчых груп. Дырэктар абласнога ліцэя Пётр Уладзіміравіч Шылаў са сваімі калегамі азнаёміў удзельнікаў семінара з выставай метадычных работ педагогаў ліцэя і творчых работ навучэнцаў. Ну, а пра стварэнне вучэбна-метадычных комплексаў па прадмету дырэктар палітэхнікума Аляксандр Мікалаевіч Шапчыц і метадыст Лідзія Уладзіміраўна Лажэчка расказвалі з асаблівым гонарам! Яны ж і прапанавалі ідэю стварэння сумесных творчых груп (выкладчыкі ССНУ і ПТНУ) па распрацоўцы метадычных дапаможнікаў па роднасных прафесіях. У новым навучальным годзе пачне сваю работу адна з творчых груп па інавацыйных тэхналогіях навучання швейнай вытворчасці.

Метадычная служба ў ПТНУ праектуецца на аснове адзінага плана метадычнай работы з улікам канкрэтных умоў навучальнай установы і аналізу выканання плана работы за год, дыягнаставання педагогаў. Спектр праблем, над якімі працуюць установы прафесійнай адукацыі, шырокі: асобасна арыентаванае навучанне і выхаванне, вывучэнне і ўкараненне ў вучэбна-адукацыйны працэс сучасных адукацыйных тэхналогій. Галоўны акцэнт у арганізацыйна-метадычнай рабоцезроблены на ўкараненні ў вучэбны працэс інавацыйных тэхналогій. Гэтаму садзейнічала і праграма развіцця сістэмы прафесійнай адукацыі вобласці, якая распрацавана на аснове праграмы развіцця кожнай навучальнай установы. Адным з яе раздзелаў з'яўляецца вучэбна-метадычнае забеспячэнне ПТНУ.

Але разам з тым нярэдка калектыў навучальнай установы сутыкаецца з настолькі расплывістай праблемай, што немагчыма дакладна ўявіць вынікі і этапы яе выканання. Любая тэма, якая прадугледжвае "павышэнне", "узмацненне", ужо ў сваёй фармулёўцы нясе элемент фармалізму. І не дзіўна, калі пасля яе завяршэння выяўляецца, што, напрыклад, якасць навучання павысілася зусім нязначна.

Часта пры аналізе вучэбна-выхаваўчай работы ў ПТНУ вобласці высвятляецца, што ў навучальнай установе складаецца процьма розных планаў, у выніку чаго адно мерапрыемства нярэдка накладваецца на другое. Імкненне ў сувязі з новай падзеяй складаць планы прыводзіць да бяспланавасці, фармалізму, паколькі ў іх пад рознымі "соусамі" падаюцца ўсё тыя ж задачы і мерапрыемствы. Важныя падзеі ў жыцці патрабуюць не складання планаў, а ўнясення карэктываў. Тады агульнавучылішчны план будзе кароткі, дзелавы і не будзе паўтараць таго, што ёсць у іншых асноватворных дакументах.

Кожны педагог павінен не толькі пастаянна паглыбляць свае веды, але мець і навуковую падрыхтоўку, валодаць метадалогіяй навукі, каб творча выкарыстоўваць у навучанні і выхаванні навучэнцаў законы педагогікі, псіхалогіі і самастойна вырашаць розныя складаныя педагагічныя праблемы.

Мы ўступілі ў эру прынцыпова новых ведаў і спосабаў пазнання. Спецыяліст XXI стагоддзя - гэта прафесіянал, які здольны творча мысліць, прымаць нестандартныя рашэнні і несці за іх адказнасць. Таму чалавеку, які хоча адпавядаць зменліваму свету, патрэбна будзе вучыцца ўсё жыццё.

У сістэме прафтэхадукацыі Магілёўскай вобласці працуюць 1902 кіруючыя і інжынерна-педагагічныя работнікі. Захоўваецца вялікая цякучасць кадраў сярод майстроў вытворчага навучання, што тлумачыцца нізкай заработнай платай. Значная колькасць майстроў мае стаж працы пяць і больш гадоў, што сведчыць пра высокі ўзровень прафесійнай вытворчай кваліфікацыі.

Абнаўленне сістэмы нацыянальнай пачатковай прафесійнай адукацыі прадугледжвае павышэнне сацыяльнага статусу педагога, арыентацыю на яго асобу, неабходнасць узаемасувязі, каардынацыі розных этапаў прафесійнага станаўлення — ад прафесійнай падрыхтоўкі да перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі. У рэгіёне ствараюцца ўмовы для таго, каб павысіць прафесійную гнуткасць, мабільнасць і канкурэнтаздольнасць педагога, што асабліва важна для забеспячэння адукацыйнага працэсу ў ліцэйскіх групах, прафесійных каледжах.

Але разам з тым існуе шэраг праблем, якія неабходна вырашыць ужо ў гэтым навучальным годзе. Маюць патрэбу ў павышэнні кваліфікацыі выкладчыкі фізвыхавання, якія працуюць з навучэнцамі, што маюць розныя паталогіі ў здароўі, а таксама выкладчыкі лячэбнай фізкультуры. Плануецца арганізаваць павышэнне кваліфікацыі выкладчыкаў і майстроў вытворчага навучання па прафесіях "Выканаўца мастацка-афарміцельных работ", "Мастак роспісу па дрэве", "Інкрустатар саломкай" і "Агент страхавы".

Бываючы ў ПТВ-138 Магілёва, пераконваешся, з якой увагай і спагадлівасцю ставіцца ўвесь калектыў работнікаў і навучэнцаў на чале з яго дырэктарам Ірынай Мікалаеўнай Талпыгай да ветэранаў. У гэтым бачаць яны не толькі свой канкрэтны ўклад у паляпшэнне жыцця ветэранаў, але і сродак патрыятычнага выхавання будучых маладых рабочых, іх грамадзянскага станаўлення, фарміравання паважлівых адносін да прадстаўнікоў старэйшага пакалення. Ветэранам ёсць што расказаць і параіць. Таму, думаецца, неабходна стварыць рэгіянальную арганізацыю ветэранаў прафесійнай адукацыі з мэтай далучэння іх да пасільнай працы па навучанні і выхаванні моладзі.

Душа навучальнай установы — педагог. У гэтай цэнтральнай фігуры, як у фокусе, сыходзяцца ўсе цяжкасці, праблемы, якія перажывае сістэма адукацыі. Менавіта настаўнік генерыруе ўсё новае, перадавое, увасабляе той сплаў прафесіяналізму, высокай духоўнасці, грамадзянскасці, які дазваляе яму быць злучальным звяном у ланцужку пакаленняў.

Сёння многія прафесійна-тэхнічныя навучальныя ўстановы вобласці сталі сапраўднымі лабараторыямі педагагічнага вопыту, які мае не толькі рэгіянальнае значэнне. Сапраўднай школай моды лічыцца Бабруйскае вышэйшае прафесійнае вучылішча бытавога абслугоўвання насельніцтва, якое ўзначальвае Галіна Васільеўна Сцяпанава, мэтанакіраваны, працавіты чалавек, прафесіянал сваёй справы. Вялікая ўвага ўдзяляецца ў навучальнай установе прафесійнаму выхаванню навучэнцаў. Традыцыйна праводзяцца конкурсы "Лепшы першы выраб", "Лепшы дыпломны праект". Кожны выкладчык займаецца самаадукацыяй. Выкладчык спецдысцыпліны Т.В.Гушча працуе над праблемай "Кантроль ведаў, уменняў і навыкаў навучэнцаў". Майстар вытворчага навучання Ганна Віктараўна Какоўка сумесна з навучэнцамі распрацавала вучэбна-метадычны дапаможнік "Пабудова чарцяжа і раскрой жаночага дэмісезоннага паліто з рукавамі крою рэглан". У навучальнай установе пастаянна працуе семінар-практыкум "Укараненне новых педагагічных тэхналогій — адзін са шляхоў удасканалення навучальнага працэсу", які дазваляе пашыраць веды па методыцы сучаснага ўрока.

Таленавітыя педагогі працуюць у сістэме прафесійнай адукацыі Магілёўскай вобласці. Пра гэта сведчаць матэрыялы выставы "Інавацыі ў адукацыі", якая была арганізавана падчас работы абласной педагагічнай канферэнцыі "У новае стагоддзе — з эфектыўнымі педагагічнымі тэхналогіямі і высокай якасцю адукацыі". Упершыню на канферэнцыі работнікам адукацыйнай сферы была прадастаўлена магчымасць абмеркаваць дасягненні і праблемы ВНУ, ССНУ, ПТНУ, абласных ліцэяў, агульнаадукацыйных школ.

Гучала музыка. У зале, дзе праходзіла канферэнцыя, панаваў дух урачыстасці і гордасці за сваю справу. Свяціліся твары педагогаў, у перапынках наладжваліся творчыя сувязі, абмяркоўваліся пытанні, над якімі можна працаваць сумесна ў будучым. Радуе ўвага кіраўнікоў вобласці да праблем адукацыі. Прывітанне, новы навучальны год! Са святам, паважаныя калегі!

**Ларыса РАБАВА,**
**намеснік дырэктара**
**вучэбна-метадычнага цэнтра**
**Магілёва.**

Лексіс

# Гаварыце правільна

***Вядома, што літаратурная мова — гэта апрацаваная, упарадкаваная, нармалізаваная форма агульнанароднай мовы, прызначэнне якой — абслугоўваць самыя разнастайныя сферы грамадскай дзейнасці чалавека. І чым больш развіта наша грамадства, тым большыя патрабаванні прад'яўляе яно да мовы. Надзённа гучаць словы класіка беларускай літаратуры Я.Коласа: "Пытанне аб чысціні мовы, аб яе паўнацэннасці, яркай выразнасці і сакавітасці, аб мове, якая б поўнасцю адпавядала вялікаму зместу нашай творчай сацыялістычнай эпохі, набывае зараз дужа актуальнае значэнне". Пытанні моўнай культуры набываюць асаблівую актуальнасць у наш век — век шырокага развіцця прэсы, радыё і тэлебачання.***

Павышэнне моўнай культуры вучняў — адна з галоўных задач, якія стаяць перад сучаснай школай.

Барацьба за культуру мовы — гэта барацьба за правільнае выкарыстанне слоў, форм, канструкцый там, дзе мова, развіваючыся і ўзбагачаючыся, дае магчымасць выбару і адбору. З практычнымі задачамі культуры мовы суадносіцца праблема літаратурнай нормы.

Найбольш частыя парушэнні літаратурных норм у галіне сінтаксісу звязаны з правіламі ўтварэння словазлучэнняў па спосабе кіравання.

Так, у мове школьнікаў (ды і настаўнікаў) часта даводзіцца чуць: *"Сатры дошку"*. Але ж сцерці — значыць зняць што-небудзь з паверхні. У гэтым выпадку звычайна маецца на ўвазе зняць з дошкі надпіс, малюнак ці проста пыл. Таму трэба гаварыць: *Сатры з дошкі* ці *Вытры дошку*.

Дзеяслоў *баяцца* ўваходзіць у семантычную групу слоў, якія кіруюць родным склонам. Кіраванне родным беспрыназоўнікавым было і застаецца літаратурнай нормай.

Асобныя выпадкі ўжывання вінавальнага беспрыназоўнікавага пры дзеяслове *баяцца* не даюць падстаў рабіць выснову аб моўнай тэндэнцыі да пашырэння гэтай з'явы, таму вінавальны аб'екта ў сказах з дзеясловам *баяцца* нельга лічыць літаратурнай нормай.

Дзеяслоў *гаварыць* у значэнні "сведчыць аб чым-небудзь, указваць на што-небудзь" традыцыйна ўжываецца ў канструкцыях з месным (*гэта гаворыць аб тым, што..., гэта гаворыць аб тым, як...*) ці вінавальным склонам (*гэта гаворыць пра тое, што..., гэта гаворыць пра тое, як...*). У размоўным стылі ў тым жа значэнні шырока распаўсюджана канструкцыя з вінавальным склонам і прыназоўнікам за: *гэта гаворыць за тое, што...* Гэтая размоўная канструкцыя паяўляецца пад несумненным уплывам такіх выразаў, як *галасаваць за што-небудзь, выказвацца за што-небудзь* і пад. Ужываючыся побач з канструкцыямі *гаварыць аб тым, што..., гаварыць пра тое, што...*, выраз *гаварыць за тое, што...* захоўвае стылістычнае адценне размоўнасці.

Фактары аналагічных уздзеянняў, абумоўленыя сэнсавым збліжэннем слоў, аказвалі і працягваюць аказваць моцны ўплыў на развіццё сістэмы словазлучэнняў. Семантычныя працэсы, што адбываюцца ў слове (развіццё новых ужыванняў, а ўслед за імі часта і новых значэнняў), — прычына пераходу такога слова з адной семантычнай групы ў другую. Трапіўшы ў новую семантычную групу, слова набывае і тыя дыстрыбуцыйныя асаблівасці (г.зн. асаблівасці спалучальнасці), якія характэрны для слоў гэтай групы. Параўнаем яшчэ выпадкі ўплыву адных канструкцый на другія: *назіранні над чым-небудзь — кантроль над чым-небудзь*; дзеяслоўнае кіраванне — *кантраляваць што-небудзь*.

Пад уплывам сінанімічных прыметнікаў *характэрны, тыповы,* якія кіруюць прыназоўнікава-склонавай формай "для + родны", прыметнік *уласцівы* таксама памылкова спалучаецца з гэтай прыназоўнікава-склонавай формай: *уласцівы для героя, уласцівы для пісьменніка.* Літаратурная норма — *уласцівы каму-чаму-небудзь.*

Слова *аплаціць* ("унесці плату, аддаючы грошы за што-небудзь) часта змешваюць з аднакарэнным дзеясловам *заплаціць*, розным паводле ўжывання і форм кіравання.

Дзеяслоў *аплаціць* трэба ўжываць тады, калі гаворыцца аб кампенсацыі расходу, кошту, крэдыту, аб атрыманні грашовага дакумента (чэка) і пад. *"Заплаціць"* абазначае "аддаць грошы або якую-небудзь іншую плату за што-небудзь".

Характэрным для дзеяслова *аплаціць* з'яўляецца тое, што ён здольны кіраваць толькі вінавальным беспрыназоўнікавым склонам (*аплаціць праезд, работу*, а не: *аплаціць за праезд, аплаціць за работу*). Прычына памылкі — уплыў аналогіі з нарматыўнымі спалучэннямі *заплаціць за прадукт, заплаціць за тавар*).

У беларускай літаратурнай мове дзеяслоўны назоўнік *аплата* ўжываецца, як правіла, з родным склонам залежных кампанентаў без прыназоўніка: *аплата працы, аплата выдаткаў* і пад. Словазлучэнні *аплата за працу, аплата за праезд*, якія часта сустракаюцца ў гутарковай і пісьмовай мове вучняў, — адхіленне ад літаратурнай нормы.

Яснасць, дакладнасць, выразнасць нашай мовы залежыць не толькі ад ведання граматыкі, але і ад таго, наколькі мы ведаем законы словаўжывання. Пад нормамі словаўжывання звычайна разумеецца правільнасць выбару слова і выкарыстанне яго ў агульнавядомым значэнні і ў агульнапрынятых спалучэннях.

Слова *дата*, напрыклад, ужываецца пры ўказанні на час (год, месяц, чысло) здзяйснення якой-небудзь (пераважна памятнай) падзеі: *вечар, прысвечаны гэтай даце, юбілейная дата* і пад. У адрозненне ад назоўніка *дата* слова *чысло* ўжываецца толькі ў адносінах да дня месяца ў яго парадкавым радзе (*якое сёння чысло?*). Памылковае выкарыстанне слова *дата* замест *чысло* (ці год) асабліва частае ў спалучэнні *на гэту дату*, якое ўзнікла па аналогіі з канструкцыямі на *1-е студзеня, на 1-е лютага* і пад.

Прыслоўе *дзе-небудзь*, якое мае значэнне "ў нейкім месцы", звычайна ўжываецца пры няпэўным ці прыблізным абазначэнні месца (*знаходзіцца дзе-небудзь, размясціцца дзе-небудзь*). Выкарыстанне гэтага слова для абазначэння прыблізнага часу, няпэўнага тэрміну (*дзе-небудзь летам збяромся, дзе-небудзь у чэрвені будзе практыка*) няправільнае, памылковае (трэба: *прыкладна, прыблізна* ці *калі-небудзь у чэрвені*).

Значэнне слова *крайні* — "гранічны" ці "той, які знаходзіцца з краю чаго-небудзь": *крайні прадмет, крайнія меры, крайні тэрмін.* Ужываць слова *крайні* ў адносінах да чалавека, які стаіць у чарзе, няправільна. У такіх выпадках трэба выкарыстоўваць прыметнік *апошні.*

Слова *дадзены* ўваходзіць у састаў устойлівых выразаў, якія ў выніку вельмі частага і не заўсёды асэнсаванага ўжывання сталі штампамі, універсальнай заменай розных слоў і выразаў канкрэтнага зместу: *у дадзены момант, на дадзеным этапе* (замест *цяпер, зараз*), *у дадзеным паўгоддзі* (замест *у першым, у другім, у гэтым паўгоддзі*).

Не варта без патрэбы ўжываць дапаможны дзеяслоў *з'яўляецца*, які надае сказу кніжны характар: *Маёй любімай кнігай з'яўляецца "Маладая гвардыя". Галоўным героем трылогіі Я.Коласа "На ростанях" з'яўляецца Лабановіч.* Куды лепш сказаць: *Мая любімая кніга — "Маладая гвардыя". Галоўны герой трылогіі Я.Коласа "На ростанях" — Лабановіч.*

Без патрэбы часта выкарыстоўваецца ў вуснай і пісьмовай мове і спалучэнне *ў справе чаго-небудзь: у справе выхавання, у справе паляпшэння медыцынскага абслугоўвання насельніцтва* і пад. У такіх спалучэннях слова *справа* не мае свайго прамога значэння, а таму яно можа быць апушчана ці заменена (*у справе выхавання — у выхаванні*).

Зварот *мець месца* як памылковая калька з рускай *иметь место* настолькі ўкараніўся і пашырыўся, што іншы раз выступае там, дзе ў рускай мове ўжываецца дзеяслоў *имеется*, якому ў беларускай мове адпавядае толькі адзін эквівалент — ёсць. Зварот *иметь место* на беларускую мову звычайна трэба перакладаць пры дапамозе дзеяслова *быць*.

Сярод многіх праблем культуры мовы значнае месца займаюць пытанні няправільнага ўжывання лішніх, непатрэбных слоў. І гэта не выпадкова, паколькі стылістычна не апраўданая таўталогія, засмечваючы як вусную, так і пісьмовую мову, — праяўленне беднасці слоўнікавага запасу, няўменне карыстацца лексікай мовы, што аднолькава недапушчальна. Першаступеннае значэнне праблема таўталогіі набывае ў школе, пры рабоце з вучнямі па стылістыцы: узбагачэнне іх слоўнікавага запасу, развіццё навыкаў правільнага словаўжывання цесна звязаны з выкарыстаннем распаўсюджаных таўталагічных памылак.

Сутнасць таўталогіі заключаецца ў паўтарэнні блізкіх па значэнні слоў для выражэння адной і той жа думкі. У мове вучняў часта сустракаюцца няправільныя спалучэнні: мая аўтабіяграфія, свая аўтабіяграфія і пад.

Паколькі першая частка гэтага складанага слова (*аўта*) адпавядае па значэнні словам *свой, уласны* і пад., то спалучэнні тыпу *свая аўтабіяграфія, мая аўтабіяграфія* — таўталагічныя. Памылкі ўзнікаюць пад уплывам такіх нарматыўных канструкцый, як *у сваёй кнізе, у сваім артыкуле, у сваёй аўтабіяграфічнай аповесці* і пад.

У сэнсавы састаў слова *біяграфія* ўваходзіць слова *жыццё*, таму выраз *біяграфія жыцця* трэба расцэньваць як няправільны, таўталагічны. Не адпавядаюць літаратуранай норме і словазлучэнні тыпу *свой аўтапартрэт, свая аўтагравюра* і пад. У апошнія гады ў слова *аўтабіяграфія* ўзнікла яшчэ адно значэнне, пакуль не адзначанае тлумачальнымі слоўнікамі беларускай мовы: "афіцыйны дакумент, у якім выкладаюцца асноўныя факты асабістага жыцця, які прадстаўляецца пры паступленні на работу, вучобу і пад". У гэтым значэнні слова *аўтабіяграфія* можа быць ужыта ў словазлучэннях *мая аўтабіяграфія, свая аўтабіяграфія.*

Аналагічныя спалучэнні, акрамя таго, магчымыя і ў тых выпадках, калі слова *аўтабіяграфія* з'яўляецца назвай літаратурнага твора.

Такім чынам, у сувязі з тым, што семантычная структура слова *аўтабіяграфія* расшырылася за кошт новага значэння ("афіцыйны дакумент"), адбыліся змены ў спалучальнасці гэтага слова з іншымі лексемамі. Калі ў першым значэнні ("апісанне свайго жыцця") яно не можа спалучацца са словамі *мая, свая,* то ў другім, новым, значэнні такія спалучэнні магчымыя і правамерныя.

Слова *вакансія* азначае "незамешчаная пасада, свабоднае месца ва ўстанове і пад.". Паколькі ў сэнсавай структуры слова ёсць значэнне "свабодны, пусты", словазлучэнні *свабодная вакансія, на свабодную вакансію* — няправільныя, таўталагічныя. Такая памылка, відаць, — вынік уплыву аналогіі з канструкцыямі тыпу *занятая вакансія, адкрытая вакансія,* а таксама *свабоднае месца* і пад.

Таўталагічнымі, няправільнымі трэба лічыць і спалучэнні *стары ветэран, вопытны ветэран*; значэнне гэтых словазлучэнняў па сутнасці заключана ў іх галоўным кампаненце — назоўніку "ветэран". Зыходнае значэнне — "стары, вопытны воін", пераноснае — "стары, заслужаны, вопытны дзеяч, старажыл".

Таўталагічнае і спалучэнне *першы дэбют*, а спалучэнне *апошні дэбют* увогуле супярэчыць сэнсу слова *дэбют* — "першае выступленне артыста на сцэне", а таксама (пераносна) — "пачатак якой-небудзь дзейнасці". Нельга гаварыць і пісаць таксама *"дэбютаваць у першы раз"*.

Выраз *праліўны лівень* — таўталагічны, няправільны, паколькі гэта слова азначае "праліўны дождж". Такая памылка сустракаецца як у вуснай, так і ў пісьмовай мове, і ўзнікла яна ў выніку кантамінацыі словазлучэнняў *моцны лівень* і *праліўны дождж*.

Слова *перыяд* мае значэнне "прамежак часу, у які працякае пэўны працэс, ці этап у развіцці чаго-небудзь, у жыцці краіны, гісторыі". Значыць, у самім слове ёсць ужо паняцце аб часе, яго працяглласці, а таму трэба лічыць таўталагічнымі словазлучэнні тыпу *за гэты перыяд часу* (лепш: *за гэты час*), *працяглы перыяд часу* (лепш: *працяглы час*).

Таўталагічнымі, няправільнымі з'яўляюцца і спалучэнні слова месяц з назвамі месяцаў (*з лютага месяца, да мая месяца* і пад.).

Паколькі ў значэнні слова *месяц* ужо ёсць указанне на часовы адрэзак, то спалучэнне *месяц часу* — таксама таўталагічнае, няправільнае. Такія канструкцыі характэрныя для дзелавой, афіцыйна-канцылярскай мовы, у агульналітаратурным ужыванні трэба пазбягаць іх: яны не прыўносяць ніякіх сэнсавых удакладненняў і толькі перагружаюць мову, робяць яе шаблоннай.

Вялікае адукацыйнае ўздзеянне школы на працэс фарміравання культуры мовы вучняў, на засваенне імі нормаў беларускай мовы — агульнавядомае. Аднак гэтыя магчымасці выкарыстоўваюцца далёка не поўнасцю.

Асноўная прычына ўсё яшчэ нізкай культуры мовы вучняў, на наш погляд, — сур'ёзныя недахопы ў выкладанні беларускай мовы. У многіх школах вывучэнне граматыкі не звязваецца з развіццём мовы вучняў. Вывучэнне беларускай мовы і літаратуры недастаткова выкарыстоўваецца для ўзбагачэння слоўнікавага запасу школьнікаў, навучання іх выразнаму чытанню, правільнаму і вобразнаму выказванню думак. Пры правядзенні пісьмовых пераказаў і сачыненняў не заўсёды практыкуецца спецыяльная моўная падрыхтоўка да іх. Праверка работ часта абмяжоўваецца выпраўленнем настаўнікам толькі арфаграфічных і пунктуацыйных памылак, не прад'яўляюцца высокія патрабаванні да культуры мовы вучняў.

**Тамара БАНДАРЭНКА,**
**дацэнт, кандыдат філалагічных навук.**

# Свята ў дыяментавым горадзе

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка: "Восьмы раз краіна адзначае гэтае свята. Яно пачынала свой шлях з Полацка, крочыла па Тураве, Навагрудку, Оршы, Нясвіжы, Пінску, Заслаўі, а сёлета ўпершыню завітала на Магілёўшчыну, у старажытны Мсціслаў. У гэтым годзе яму спаўняецца 865 гадоў. "Дыяментавы горад", як назваў яго Уладзімір Караткевіч, сустракае свята і знакамітых гасцей не толькі хлебным караваем, але і абноўленымі вуліцамі, новай школай, цудоўным помнікам нашаму вялікаму Пятру Мсціслаўцу.

Пётр Мсціславец поплеч з Іванам Фёдаравым працягваў вялікую справу Францыска Скарыны па выданні духоўных кніг. Гэтыя кнігі пашыралі сярод людзей асвету, выхоўвалі хрысціянскую мараль і добрыя пачуцці міласэрнасці, што спрадвеку былі адметнай рысай усходнеславянскіх народаў. Дзякуючы іх самаахвярнай дзейнасці распаўсюджвалася і ўмацоўвалася праваслаўная вера — вера, якая з'яўлялася асновай духоўнага яднання народаў Вялікай, Белай і Малой Русі...

На Беларусі заўсёды шанавалі кнігу. Пра гэта сведчыць уся пяцісотгадовая гісторыя беларускага кнігавыдання, пачынаючы ад Псалтыра і Бібліі нашага слыннага першадрукара Францыска Скарыны. І сёння, на пачатку трэцяга тысячагоддзя, кніга дастойна вытрымлівае канкурэнцыю з сучаснымі электроннымі носьбітамі інфармацыі. Штогод на Беларусі выпускаецца ў свет звыш 6000 назваў кніг і брашур агульным тыражом больш за 60 трыльёнаў экземпляраў. Не ўяўляецца сённяшняе жыццё і без газеты, і без часопіса. У наш няпросты час дзяржава выдзяляе значныя сродкі на адукацыю і культуру. Беларусь здолела захаваць і развіць сферу кнігавыдання, паліграфіі і сродкаў масавай інфармацыі.

Клопат пра друкаванае слова на Беларусі мае сапраўды дзяржаўны характар. Мы цалкам фінансуем выпуск кніг серыі "Школьная бібліятэка", цэлы шэраг выданняў для папаўнення фондаў масавых бібліятэк, у значнай ступені субсідзіруюцца кнігі для дзяцей і юнацтва, беларускамоўная літаратура, а таксама падручнікі для сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. Дзейнічае і дае свой добры плён Указ Прэзідэнта аб дзяржаўнай падтрымцы нацыянальнага кнігавыдання.

Дарагія мае суайчыннікі, пакуль нельга сказаць, што мы жывем багата і ў нас усяго хапае. Але нават нашыя непрыяцелі прызнаюць: па індэксе чалавечага развіцця, як сведчыць ААН, наша краіна сёння апярэджвае краіны былога Савецкага Саюза і некаторыя краіны Усходняй Еўропы. Мы ідзем сваім шляхам паступовых пераўтварэнняў і ўдасканалення. Яны заснаваны на ўкладзе жыцця беларускага народа, які склаўся гістарычна на нашых небагатых прыродных, але невычарпальных інтэлектуальных рэсурсах. Беларусам ёсць чым ганарыцца, ёсць што паказаць усяму цывілізаванаму свету. У духоўнай скарбонцы беларускага народа не толькі Псалтыр і Біблія Францыска Скарыны, не толькі кнігі класікаў сусветнай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Мы ганарымся сваёй універсальнай "Энцыклапедыяй". Нельга не прыгадаць і надзвычай унікальную кніжную серыю "Памяць". Гэта своеасаблівая гісторыка-краязнаўчая энцыклапедыя. Мае ўжо такую энцыклапедыю і Мсціслаўскі раён.

Пашыраецца інфармацыйная прастора Беларусі. На сённяшні дзень у краіне зарэгістравана звыш 1000 перыядычных выданняў самага шырокага тэматычнага зместу. З глыбокім усведамленнем ролі прэсы ў жыцці грамадства дзяржава аказвае істотную фінансавую дапамогу шэрагу дзіцячых, маладзёжных, літаратурна-мастацкіх, навукова-метадычных і грамадска-палітычных выданняў. Большасць з іх выходзіць на беларускай мове. У час складаных пераўтварэнняў і паглыбленага асэнсавання развіцця беларускай дзяржавы асаблівую значнасць набывае праўдзівае і адказнае слова — слова, накіраванае на кансалідацыю грамадства, на стваральную працу ў імя нашай Бацькаўшчыны...

Глыбока ўпэўнены, што і надалей нашу Беларусь будзе асвятляць непагасная лампада духоўнасці, што сучаснае пакаленне сваёй стваральнай працай будзе сцвярджаць ідэалы дабра, міласэрнасці, чалавечай годнасці. Веру: ніколі не перасохне крыніца народнай мудрасці. Я яшчэ раз віншую арганізатараў, удзельнікаў, гасцей урачыстасцяў, прысвечаных Дню беларускага пісьменства. Я жадаю вам творчых поспехаў у справе далейшага захавання і развіцця духоўных каштоўнасцяў і культурных традыцый..."

Пісьменніца, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава: "Наш шлях пачаўся ў Святадухавым саборы, і я думала пра тое, што менавіта беларуская інтэлігенцыя, беларускія пісьменнікі, навукоўцы разам з вернікамі калісьці ў канцы 80-х гадоў ратавалі гэты храм, як ратавалі яны на працягу многіх дзесяцігоддзяў атэістычнага шаленства ўсё тое, што назапасілі продкі, імёны асветнікаў Еўфрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага і ўсіх тых, каго нельга было нават узгадваць. Мы спрабавалі будаваць грамадства, гісторыя якога пачынаецца з 1917 года, але вядома, што з гэтага выйшла. І, відаць, энергія нашых продкаў, іх веліч духу была настолькі моцнай, што яна ў рэшце рэшт перамагла. Але і гэтае свята ў Мсціславе, можа, не адбылося б зараз, адбылося б пазней, а можа, увогуле б не адбылося, калі б не высілкі той жа беларускай інтэлігенцыі...

...Сюды калісьці, можа, праз сто гадоў, прыйдуць нашыя нашчадкі. Можа быць, тут зменіцца архітэктура, можа быць, тут будуць стаяць іншыя дамы, а людзі з вашымі прозвішчамі прыйдуць сюды, каб вітаць чарговых дзеячаў мастацтва, і будзе стаяць гэты помнік Пятру Мсціслаўцу, і помнік Еўфрасінні Полацкай — у Полацку, і Сафіі Слуцкай — у Слуцку, і іншым беларскім дзеячам — як сведчанне таго, што масавая свядомасць народа ўспрымае высілкі беларускай інтэлігенцыі, беларускіх пісьменнікаў, якія свае самыя лепшыя старонкі прысвячалі людзям нашай зямлі..."

Пісьменніца, галоўны рэдактар часопіса "Алеся" Раіса Баравікова: "Сёння мы адзначаем свята беларускага пісьменства, а неўзабаве на нашай Беларусі будзе яшчэ адно свята — свята ўраджаю "Дажынкі-2001". І я думаю, што не памылюся, калі скажу, што на слове і на хлебе трымаецца ўсё нашае чалавечае жыццё. Слова пісьменнік апранае ў прыгожыя формы, а душа чалавечая са звычайнага слова робіць дыямент. Таму што слова і ратуе, і лечыць, і песціць, і лашчыць — гэтаксама, як і чалавечыя рукі, якія песцяць, лашчаць, працуюць на нашай матухне-зямліцы..."

Паэт, галоўны рэдактар газеты "Літаратура і мастацтва" Алесь Пісьмянкоў: "Сёння я хацеў бы прачытаць два вершы: адзін прысвечаны кнізе, а другі прысвечаны мячу. Бо дзякуючы кнізе мы ёсць і будзем, а дзякуючы мячу мы як стаялі, так і будзем стаяць.

*Трывогаю лоб узараны.*
*Глыбока запалыя вочы.*
*Нібыта жывыя дзве раны*
*Ці вогнішчы два сярод ночы.*
*Вочы такія*
*Не зробяць ліхога,*
*Вочы такія*
*Ніколі не схлусяць,*
*Вочы такія страчаў я*
*ў святога*
*У хатах маёй Беларусі.*
*Боль стагоддзяў*
*у іх увабраны*
*І пакуты зямлі векавыя...*
*Не вочы,*
*А - раны,*
*Незагойныя раны жывыя.*

І другі:

*Чытаю тапаніміку —*
*Свой край чытаю родны.*
*Зноў бачу кроў на быльніку*
*І чую плач гаротны.*
*Зноў бачу клін нявораны*
*І стрэлы над саборамі.*
*А ворагі, як вораны,*
*А ворагі, як вораны!..*
*Зноў чую: зброя лязгае —*
*То прашчур мой бароніцца,*
*Каб нам імя славянскае*
*Не каркаць па-варонняму!"*

Не ведаю, як каму, а мне той факт, што ў адзін Дзень у адным знакамітым беларускім мястэчку адбыліся адразу дзве такія вялікія падзеі — адкрыццё новай школы і адкрыццё помніка Пятру Мсціслаўцу — падаецца калі не знакавым, дык, прынамсі, сімвалічным. Гэта — як сустрэча двух пачаткаў, двух вялікіх святаў (Дня ведаў і Дня пісьменства), двух, здавалася б, супрацьлеглых поглядаў: у будучыню (школа) і ў мінулае (помнік). Гэтак быццам бы сам Мсціслаў, авеяны стагоддзямі і расхваляваны тысячамі звонкіх галасоў сваіх наступнікаў, здолеў глянуць на сябе адразу з мінулага і з будучыні. Дый убачыць сваю сучаснасць. Бо, як вядома, без мінулага няма сучаснасці. А без сучаснасці няма будучыні. Гісторыя — дзеля будучыні, будучыня — дзеля мінулага...

**Мікола ЧЭМЕР.**





Падарожжы: Крым

# Тарханкут

Крым... Варта толькі пачуць гэтае слова — і ўзнікае цудоўны вобраз спякотнага сонца, сіняга мора, летняга адпачынку. Вобраз гэты добра вядомы мільёнам турыстаў з многіх краін, якія пабывалі ўжо ў Крыме і з нецярплівасцю чакаюць новых сустрэч з гэтым добрым і гасцінным краем.

Гавораць, што Бог стварыў крымскую зямлю з добрай усмешкай, аб'ядноўваючы ў адно цэлае бяскрайні стэп і гордыя вяршыні гор, залатыя пясчаныя пляжы заходняга і ўсходняга ўзбярэжжаў са скалістымі ўцёсамі паўднёвага берага Крыма.

Не так даўно Міністэрствам курортаў і турызму аўтаномнай Рэспублікі Крым для журналістаў з краін СНД быў наладжаны тыднёвы тур па гэтым дзівосным краі. Пры падтрымцы Беларускага саюза журналістаў прынялі ў ім удзел і прадстаўнікі розных выданняў нашай краіны.

...Вось, нарэшце, я ў цягніку, які едзе ў Сімферопаль. Разам з білетам паклаў на бачнае месца страхоўку, якую ласкава прапанавалі аформіць у чыгуначнай касе. Сума заключанага дагавора аказалася не вельмі вялікай — усяго нейкіх пяцьсот рублёў, таму, ні хвіліны не вагаючыся, заплаціў грошы. Жанчына за акном ухвальна кіўнула:

— Летам на такія рэчы памежнікі глядзяць уважліва, таму лепш ехаць у адпачынак са спакойнай душой.

Гавораць, тыя, хто не паспеў аформіць страхоўку, у такія моманты нервова сціскаюць у руцэ дзесяцідоларавую купюру, спадзеючыся, што яна стане своечасовым пропускам да сонца і мора.

Зрэшты, прад'яўляць страхоўку мне так і не давялося. Аднак уважліва пералічваць змесціва кашалька прыйшлося літаральна праз пяць гадзін. Беларускія мытнікі прапанавалі запоўніць дэкларацыю. Унёсшы некалькі дзесяткаў долараў, якія меў пры сабе, я пацікавіўся, а як быць з непрадэклараванай адной тысячай беларускіх рублёў (на пасцель на зваротную дарогу) і дзвюма грыўнамі? Вартавы закона быў суровы:

— Унясіце ў спіс!

І як бы ў пацвярджэнне таго, што тут не ў цацкі гуляюць, падзяліўся "па сакрэту": маўляў, не так даўно на ўчастку ў багажы з пральным парашком выявілі партыю газавых пісталетаў. Засумняваліся тады ў вазе каробак (яны чамусьці аказаліся крыху цяжэйшымі). Пра спецыяльна ж абучаных сабак тут застаецца толькі марыць.

Пасля мытні ўжо нішто не перашкодзіла сустрэчы з Крымам. Крыху назалялі толькі прадаўцы ўсялякіх сервізаў, вазачак, падсвечнікаў, якія шнуравалі па цягніку. Калі іх броўнаўскі рух крыху сцішыўся, у вагоне паявіліся валютчыкі, гатовыя абмяняць усё што заўгодна па "выгадным" курсе. Аднак па прыездзе ў Сімферопаль выявілася, што выгода гэтая — даволі адносная.

Першым пунктам нашага тура стаў размешчаны на Тарханкуцкай раўніне Чарнаморскі раён, які, як высветлілася, падтрымлівае цесныя сувязі з Гродзенскай і Гомельскай абласцямі.

Але часцей за ўсё людзі, з якімі мне давялося гутарыць тут, называюць свой край проста — Тарханкут. Пра яго складаюць песні, а само гэтае слова мае карані ў далёкай мінуўшчыне. Так, уласнасць мусульманскага духавенства на зямлю зацвярджалася "тарханнымі" граматамі (ярлыкамі) і ажыццяўлялася на льготных умовах, якія прадугледжвалі вызваленне ад падаткаабкладання.

Тарханкут — выдатнае месца для адпачынку. Тут амаль не бывае дажджоў. Затое лёгкія брызы — своеасаблівая візітная картка раёна. Днём яны дзьмуць з сушы на мора. Ноччу — наадварот. Усё гэта ў спалучэнні з сухім кліматам дазваляе эфектыўна лячыць хворых на астму. А неглыбокае чыстае мора ператварыла Тарханкут у любімае месца адпачынку не толькі дарослых, але і дзяцей. Дарэчы, менавіта гэтыя землі належалі вядомаму графу Міхаілу Варанцову.

Чарнаморскі раён, бадай, адно з самых танных месцаў адпачынку ў Крыме. У ім размешчаны больш за сорак баз і пансіянатаў: "Мрія", "Трубнік", "Блакітная лагуна"... Кошт пражывання — у сярэднім ад шасці да трынаццаці долараў у суткі (з харчаваннем). Дзецям прадугледжаны скідкі. Ложак-месца ў прыватным сектары каштуе каля двух долараў. Актыўна развіваецца сельскі зялёны турызм. Людзі абсталёўваюць так званыя домікі для адпачываючых, арганізоўваюць харчаванне, выкупляюць у дзяржавы патэнт для заняткаў падобнай дзейнасцю. І ствараюцца такім чынам прыватныя пансіянаты.

Зрэшты, хапае і "дзікуноў". Маляўнічыя бухты ідэальна падыходзяць да разгортвання побач з імі цэлых палатачных лагераў. Тарханкут стаў культавым месцам збору людзей, захопленых падводным паляваннем (у моры водзіцца асётр, кефаль), аматараў паплаваць з аквалангам. Ля мыса Тарханкут сутыкаюцца два чарнаморскія цячэнні, якія проста не дазваляюць забруджваць мясцовыя воды. Амерыканскія спецыялісты, якія не так даўно праводзілі тут даследаванні, былі проста ўражаны чысцінёй вады ў моры. У мясцовых скалах здымаліся такія вядомыя фільмы як "Піраты XX стагоддзя", "Чалавек-амфібія" і многія іншыя.

Аматары археалогіі могуць наведаць тут раскопкі старажытных паселішчаў. Каля 400 курганоў знаходзяцца на заходнім узбярэжжы.

Апошнім часам зачасцілі ў гэты край іншаземцы. Прыязджаюць сюды папаляваць. Па дзесяць-пятнаццаць сабак прывозяць з сабой італьянцы. Прывабліваюць паляўнічых вальдшнепы, бекасы, курапаткі... На попыт у раёне адрэагавалі хутка (дзень палявання каштуе каля ста долараў) і сталі ствараць паляўнічыя домікі. Я пацікавіўся ў дырэктара Чарнаморскай паляўніча-рыбалоўнай гаспадаркі Фёдара Грышчанкі, ці не баіцца ён, што госці перастраляюць усю дзічыну.

— Што вы, — усміхнуўся Фёдар Мікалаевіч, — Тарханкут не толькі сонцам і морам славіцца. А што да тэрмінаў правядзення палявання, то мы іх строга кантралюем.

***

Я з дзяцінства марыў пабываць на маяку. Аднак зрабіць гэта ўдалося толькі нядаўна. Зрэшты, калі б я даведаўся раней, што давядзецца завітаць на адзін са старэйшых маякоў крымскага ўзбярэжжа — Тарханкуцкі — напэўна, не паверыў бы.

Тарханкуцкі маяк занесены ва ўсе лоцыі свету: пабудаваны ён быў у 1816 годзе. Вышыня маяка — 36,5 метра (146 прыступак). Побач — метэаралагічная станцыя, якая дае інфармацыю для праходу суднаў, і... могільнік караблёў. Належыць аб'ект гідраграфічнай службе Чарнаморскага флоту Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі.

Любуючыся з вышыні сінечай бяскрайняга мора, я ўспамінаў, як чытаў у кнігах пра хітрыкі піратаў, якія заваблівалі вогнішчамі судны, што збіліся з курсу. Падзяліўся гэтым з тэхнікам маяка Галінай Дзідусь.

— Толькі наша "вогнішча" сёння ярчэй свеціць — за трыццаць кіламетраў у моры відаць, — усміхнулася яна.

Працуе на маяку Галіна Юр'еўна ўжо семнаццаць гадоў. Акрамя яе аб'ект абслугоўваюць яшчэ шэсць тэхнікаў. Оптыка служыць пакуль спраўна, нягледзячы на тое, што год яе выпуску — 1958. А вось лямпы на сорак восем гадзін разлічаны, даводзіцца мяняць. Іх дзве. Адна — пастаянна ў рэзерве. Уключаюць маяк за гадзіну да захаду сонца і выключаюць праз гадзіну пасля яго ўзыходу. Дарэчы, у мінулым годзе непадалёк ад маяка праводзіліся спаборніцтвы серфінгістаў. Аднаго хлопца панесла ў мора. Выратаваўся ён толькі дзякуючы маяку.

Раней турыстаў на маяк не дапускалі — усё-такі ваенны аб'ект. Сёння на гэта закрываюць вочы. За экскурсіі бяруць грошы (на фарбу хапае). У людзей, якія працуюць тут, з маяком звязана ўсё жыццё. І гавораць пра яго яны як пра нешта роднае. А калі ідуць на пенсію, дык застаюцца тут жа, у сваіх службовых кватэрах на чарнаморскім узбярэжжы. Добра, што ўсім хапае месца.

***

Расказваючы пра Крым, было б несправядліва не згадаць вінаробства. Ля яго вытокаў стаяў граф Міхаіл Варанцоў.

Гістарычным цэнтрам вінаробства Крыма лічыцца Масандра. У пасёлку размешчаны галаўны завод вытворча-аграрнага прадпрыемства "Масандра". Ён вырабляе марачныя дэсертныя і моцныя віны, многія з якіх на міжнародных конкурсах і выставах адзначаны залатымі медалямі. У падземных галерэях знаходзіцца унікальны музей — вінатэка, якая захоўвае ўзоры вінаробства пачынаючы з херасу дэ ля Францьера ўраджаю 1775 года, партвейну чырвонага "Лівадзія" 1895 года — усяго больш за мільён бутэлек калекцыйных він розных марак і ўзростаў.

Больш за дваццаць він запатэнтавана "Масандрай" на сусветным рынку. Гавораць, калі Савецкі Саюз толькі пачынаў рабіць першыя крокі ў гэтым кірунку, крымскія віны адразу ж звярнулі на сябе ўвагу. Прапанаваны неяк на міжнароднай дэгустацыі ў 1957 годзе масандраўскі "Мускат белы "Чырвонага каменя" выклікаў захапленне. "Я не ведаю нацыянальнай прыналежнасці гэтага цудоўнага напою, але, напэўна, на такое здольны толькі Савецкі Саюз", — адзначыў тады адзін з суддзяў.

Сёння такія масандраўскія віны як "Такай", "Кагор", "Кабернэ" прызнаны адным з лепшых. Зразумела, знаходзяцца ўмельцы, якія выдаюць "ліпавую" прадукцыю за сапраўдную. Недасведчаным застаецца толькі параіць уважліва правяраць наяўнасць фірменнага корка. Але купляць віно ўсё-такі пажадана ў фірменных крамах.

У краінах СНД і далёкага замежжа добра вядомы і завод шампанскіх він "Новы Свет", саўгас-завод "Кактэбель", прадпрыемства "Дзіяніс", інстытут вінаграду і віна "Магарач".

Не выключана, што ў бліжэйшым будучым некаторых з гэтых гігантаў пачнуць цясніць не такія папулярныя зараз прадпрыемствы. Напрыклад, вырошчваннем вінаграду і прыгатаваннем з яго вінаробчай сыравіны ў саўгасе "Бурлюк" Бахчысарайскага раёна займаюцца ўжо не адно дзесяцігоддзе. На гэтых вінаматэрыялах вядомыя прадпрыемствы не раз выйгравалі прэстыжныя конкурсы. Сёння кіраўніцтва саўгаса адшукала сродкі на закупку неабходнага абсталявання і вырашыла само прапаноўваць пакупнікам добрае віно.

— Гадоў праз пяць пра гэтыя прадпрыемствы даведаюцца не толькі ў Крыме, — зазначыў у размове са мной кіраўнік Бахчысарайскай райдзяржадміністрацыі Уладзімір Цыганскі.

Дарэчы, падчас дэгустацыі я ацаніў прадукцыю "Бурлюка". За такімі прыгожымі назвамі як партвейн ружовы "Таўрыда", партвейн чырвоны "Бурлюк", "Прыемнае спатканне", "Талісман" і іншымі былі цудоўныя напоі з водарам абрыкоса, грушы, вяленай дыні, пялёсткаў руж... І ў журналістаў, у адрозненне ад гаспадароў, проста не паднялася рука скарыстацца прапанаванымі ёмістасцямі для зліву чароўнага віна.

**Аляксандр ГРАЧОЎ.**
**Фота аўтара.**



Новыя кнігі

## Паэт і песня

Паэт-песеннік Міхаіл Ясень шырока вядомы сваімі арыгінальнымі песнямі-баладамі — "памяць сэрца", "Абеліскі", "Перамога", "Майскі вальс", "Пакланіцеся, унукі, дзеду" і інш., якія ўвайшлі ў залаты фонд песеннай Беларусі. Адна з іх — "Ліст з 45-га" — дала назву новай кнізе выдавецтва "Беларусь" — М.Ясень. "Письмо из 45-го. Песни и стихи".

З Міхаілам Ясенем былі творча звязаны вядомыя беларускія кампазітары У.Алоўнікаў, Ю.Семяняка, І.Лучанок, Л.Захлеўны, Э.Зарыцкі, Д.Смольскі і многія іншыя. Паэт піша вершы на рускай і беларускай мовах. У зборнік увайшло лепшае са створанага Міхаілам Ясенем за 45 гадоў творчай працы ў галіне песеннай паэзіі.

## Гістарычная проза

Аўтар дваццаці кніг прозы, паэзіі, гістарычных нарысаў і эсэ Уладзімір Арлоў аддае перавагу гістарычнай прозе. Большасць апавяданняў, аповесцей, эсэ, якія складаюць змест новай кнігі пісьменніка "Сны імператара", прысвечана менавіта гістарычнай тэме. Некаторыя з іх друкаваліся раней і ўжо вядомыя чытачам. Кніга выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў прэстыжнай серыі "Беларуская проза XX стагоддзя".

Аматары беларускага пісьменства сустрэнуцца як з новымі, так і з ужо знаёмымі героямі твораў Ул.Арлова, якія перакладзены больш чым на дваццаць моў свету. А таксама з паэтам Міколам Гусоўскім, філосафам Казімірам Ляшчынскім, паўстанцамі 1863 года, царазабойцам Ігнатам Грынявіцкім і іншымі вядомымі і невядомымі асобамі айчыннай гісторыі.

**Алена ШЫЦІК.**


**Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук**

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыйны нумар 197.

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-40-63; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання, навукі — 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі — 36-41-55; ВНУ і тэхнікумаў — 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Галіна СІДАРОВІЧ.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220041, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №4691
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 5.9.2001 г. у 18.10
Наклад 30.000 паасобнікаў.